Opłata pocztowa opłacono ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Мэтрапалітальны пляц 3 кв. 12.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 9 (34) | Вільня, 4-га траўня 1934 г. | Год 2-гі.

## АД РЭДАКЦЫІ.

**У сувязі з апошнімі падзеямі ў ТБА прэзыдыюму ўдалося пазбавіцца непатрэбных выдаткаў, якія перш значна абцяжвалі буджэт ТБА, каб у сучасны мамэнт, з атрыманых такім чынам ашчаднасьцяў, прыступіць да выданьня „Роднага Краю" акуратна чатыры разы ў месяц. Адначасна зьмяняем фармат газэты і значна павялічваем матар'ял. Асаблівая ўвага будзе зьвернена на гаспадарчы аддзел.**

## Яшчэ адзін хадэцкі рэвэранс перад Літвою.

Нашыя хрысьціянскія дэмакраты, любячы зусім маўчаць аб існаваньні *беларускага пытаньня* ў Літве, куды ахвятней выказваюцца аб існаваньні *літоўскага пытаньня* ў... Віленшчыне.

Як у самих ковенскіх (дый тутэйшых) літоўцаў, так сама і у нашых хадэкаў тэрмін «Віленшчына» ня мае якіх-небудзь выразных межаў; гэта ня толькі Вільня ды яе тыя ці іншыя ваколіцы, але нешта шырэйшае, туманнае і расьцяжнае.

Хадэцкая „Беларуская Крыніца" (№ 18 ад 22 красавіка г.г.) у сваім пярэднім артыкуле „Гутаркі аб Вільні і Беларусы" на цэлых трох шпальтах разважае аб магчымасьці польска-літоўскага паразуменьня ў сувязі з гітлераўскаю пагрозаю нямецкае экспансіі на Усход і перш за ўсё на літоўскую Клайпэду.

Прызнаючы, „што заканчэньне спрэчкі літоўска-польскай і навязаньне нармальных зносін між Літвой і Польшчай зьяўляецца рэчай вельмі пажаданай і карыснай, як для беларусаў, так і для ўсіх іншых жыхароў нашага краю", — хадэцкі primo-публіцыст каротка заключае:

„Трэба прызнаць, што Літва ўступаць ня мае з чаго, а ўступаць можа толькі Польшча".

Выходзіць, што нашыя хадэкі лічаць зусім нармальным літоўскі апэтыт на туманную і "бязьмежную" Віленшчыну. Наадварот, апэтыт гэты хадэцкія беларусы гатовы нават узмацніць сваім пабожным пажаданьнем:

„Для беларусаў-жа — піша „Бел. Крыніца" — было-б пажадана, каб Літва дастала з Вільняй магчыма найбольшую беларускую тэрыторыю, што сяньня знаходзіцца ў граніцах Польшчы, бо пакуль мы ня маем свае дзяржавы і мусім жыць пад чужой, то з Літвой траціць ня мелі-б чаго, а выйграць маглі-б шмат што".

Оптымізм і шчодрасьць хадэкаў надзіва шырокія.

Але што-ж? Есьць гэткі сенкевічаўскі рыцар у польскай літэратуры, які называўся пан Заглоба, і які падарыў не належаўшыя да яго Нідэрлянды аднаму з сярэднявечных уладароў...

„Беларуская Крыніца" даходзіць да гэткае наіўнае думкі аб аднолькавасьці беларускіх і літоўскіх інтарэсаў у выпадку польска-літоўскага паразуменьня, што гатова ісьці на яшчэ адну вівісэкцыю народнага арганізму, на яшчэ адзін падзел, абы толькі ўзмацаваць мілую яе хрысьціянскаму сэрцу сяньняшнюю Літву, улучненым у яе дзяржаўны арганізм „магчыма найбольшае беларускае тэрыторыі".

Што сяньня робіць Літва на тэй, невялічкай, праўда, тэрыторыі, якая ўжо ў ёй ёсьць, заселеная, хіба што і ня горшымі за віленскіх хадэкаў, беларусамі—аб гэтым хадэкі нашыя ня кажуць.

Што ліцьвіны беспардонна літвінізуюць беларускіх сялянскіх дзяцей у сваіх літоўскіх школах, што час гульні ў Міністэрства Беларускіх Справаў у Літве даўно прайшоў — аб гэтым ,,Бел. Крыніцы" казаць нязручна.

А вось. што там пазваляецца групы безработных беларускіх інтэлігентаў ставіць нявінныя спэктаклі па мястэчках—аб гэтым не адмаўляецца напісаць часам нават і „Бел. Крыніца", хоць таксама, праўда, што аб гэткіх спэктаклях, стаўляных па розных нашых вёсках і тут— пад Польшчай,—чытаем даволі часта ў тэй самай „Бел. Крыніцы".

На наш пагляд польска-літоўскае паразуменьне таксама рэч вельмі пажаданая, аднак-жа з тым, каб адбылося яно не бяз голасу саміх беларусаў (ня толькі хадэкаў) *і ні ў якім выпадку ня коштам дарагіх для нас, як беларускага насяленьня, так і беларускіх земляў*, ад імя якіх хадэкі нашыя гэтак пасьпешна робяць свой глыбокі рэвэранс перад літоўскім маестатам.

Трэба-ж нарэшце навучыцца разумець, грамадзяне хадэкі, што Літва гістарычная і Літва сяньняшняя—гэта дзьве розныя рэчы, і што палажэньне беларусаў у даўнейшай Літве зусім было іншае, чымся яно быць можа ў сяньняшняй, скажам для яснасьці, жмудзкай Літве.

## Развальваюць сваімі упаснымі рукамі.

Справа беларускага школьніцтва, як ведама, у нас дасюль яшчэ не ўпарадкавана: беларускіх ці т. зв. утраквістычных пачатковых, школаў мы маем вельмі мала, а нат і тыя, што ёсьць, стаяць далёка на неадпаведным пазёме. Беларускае сярэдняе школьніцтва, якое ў апошні час зьвялося да дзьвёх дзяржаўных гімназіяў у Вільні і Навагрудку з боку навукова-узгадаваўчага роўню ды ўнармаваньню ўнутранага жыцьця гэтых школаў значна паднялося, але затое аслабела з боку матэр'яльнага. Колькасьць школьнае моладзі ў гэтых гімназіях за апошнія часы значна панізілася.

Зразумела, што такое самае зьявішча мы наглядаем і ў польскіх сярэдніх школах, але ў значна меншым разьмеры, бо польскія гімназіі засільваюцца ў значнай большасьці дзяцьмі ўрадоўцаў, тады як контынгэнт беларускіх гімназіяў становіць, калі ня выключна, дык прынамсі ў 95%—моладзь сялянская.

У той час, як дзеці ўрадоўцаў, згодна з існуючым законам, плацяць за навуку толькі палавіну, усе іншыя — цэлую плату, якая выносіць 220 зл. у год. Калі-ж прыняць пад увагу, што ў цяперашні крызысовы час найменшы чыноўнік (а на'т сторож) атрымліваючы 100 залатовак у месяц, знаходзіцца ў шмат лепшых варунках чымсь на'т вельмі заможны гаспадар, дык стане зразумелым тое, што мы наглядаем у нашых школах.

Беларуская моладзь, будучы пераважна незаможнай, ня можа вытрымаць такога непасільнага цяжару, які зваліўся на яе плечы.

Аднак, гэта ня ўсё: ёсьць яшчэ адна прычына, якая ўплывае на ўспомнены стан рэчы й то ў значна большай меры чымсь вышпаданая, а прычына гэтая ў нас самых, ці мо' лепш кажучм ў нашых затручаных палітычных і грамадзкіх дзеячах.

Нашыя «ўра-патрыёты» з пад знаку «Беларускай Крыніцы", розных «беларускіх газэтаў» і «летапісаў», якія так плачуцца на долю нашага сярмяжнага народу, дэмагогічна, хочучы скрыць сваё сапраўднае далёка не сердабольнае аблічча, узвальваюць усю віну ў гэтай справе на другіх: ці то на польскі ўрад і польскае грамадзянства, ці то на тых беларусаў, якія моўчкі, з напружаньнем усіх сваіх сілаў, вядуць працу над падняцьцем свае роднае культуры. Замест таго, каб памагчы ім, гэтыя пухленькія паночкі ядам сваіх затручаных глуздаў дарэшты атручваюць і да таго цяжкую атмасфэру, у якой прыходзіцца працаваць кожнаму культурнаму работніку.

Найлепшым прыкладам такога нячуванага ў жыцьці іншых паняволеных народаў зьявішча, можа служыць тая атака, якую вядуць гэтыя панкі на старонках брудных сваіх шкумацін проціў аднаго з найвыдатнейшых працаўнікаў і барацьбітоў за нашую родную культуру, якім зьяўляецца дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі гр. Р. Астроўскі.

Гэты незраўнаны арганізатар і выдатны пэдагог-узгадаваўца, каторы ўсяго сябе аддае для той справы, якой служыць, які сапраўды зьяўляецца бацькам усіх дзяцей, адданых пад яго апеку, якраз чамусьці быў выбраны гэтымі панкамі за адзіную, можна сказаць, мішэнь, па каторай (на шчасьце безрэзультатна) вядзецца абстрэл.

Трэба дзіву давацца, як гэты чалавек дасюль яшчэ трымаецца на сваёй пазыцыі і мушу падкрэсьліць, трымаецца вельмі моцна. Білі паасобку, білі пачкамі, білі з скарастрэлак і палявое артылерыі, білі з гаўбіц і мортіраў, урэшце застасавалі газавую атаку. І нічым не ўзялі, а апошняя газавая атака паноў Луцкевіча і Ко, дзякуючы праціўнаму ветру, патруціла іх самых.

Але ці-ж усё гэта не пакідае сьлядоў? О, бязумоўна пакідае, ды яшчэ якія. Перш-на-перш ад такога бязглуздага бомбардаваньня парабілі шчыліны ў самым будынку школы, здэмаралізавалі і канчальна згубілі частку моладзі, якая, ці то нявінна (бо-ж, дзякуючы толькі ўспомненых „апякуноў", што пралівалі кракадзілавы сьлёзы) пакутуе ў вастрогах, ці то скалечаная, зломаная й разьбітая пасе сьвіньні на дзедаўскім загоне. Па другое, перашкаджае нармальнай працы ў школе ды марнуе лепшыя сілы нашых неўтамімых культурных барацьбітоў на непрадукцыйнае змаганьне з надобнага роду атакамі.

З усяго вышсказанага відаць, што няма чаго наракаць на другіх, бо ж сваю найдаражэйшую справу **развальваем сваімі ўпаснымі рукамі**. *Студэнт.*

* * *

Ахінуўся я снамі весьняннымі
сяньня,
Цьветам яблыняў бледна ружовым
І сную карагодамі цудныя зданьня
І мелёдыю звонкую словаў.

Як прыемна, як добра на хвілю
забыцца,
Слухаць месяца яснага казкі.
Мэтэор праляцеў, як заблуканы
рыцар,
Так пяшчотна запахнулі краскі...

Берасьць, 1934. *А. Б.*

# На палёх крызысу.

У апошнія часы паявіліся ў прэсе сэнсацыйныя весткі аб тым, што быццам у Англіі мінуў матэр'яльны крызыс і што гаспадарчае жыцьцё набірае жывейшага тэмпу, прыпамінаючага, што праўда яшчэ ў мініяцюры, лепшыя даваенныя часы.

І запраўды, статыстычныя дадзеныя за апошні год паказваюць, што гаспадарчае палажэньне Англіі надзвычайна палепшалася. Больш сьмелыя эканамісты ўважаюць гэты „цуд над Тэмізай" за канец крызысу і прарочаць, што можа ён прычыніцца ня толькі да ажыўленьня міжнароднага гаспадарчага жыцьця, але таксама і паасобных дзяржаваў Эўропы.

Не хачу пярэчыць гэтым прароцтвам, але толькі падкрэсьліць, што залажыўшы рукі і чакаць на іх здзейсьненьне нельга. Трэба ўзяць прыклад з Англіі і падумаць аб тым, якім спосабам кожны з нас, хоць у малой часцы, можа дапамагчы ў барацьбе з гэтым страшным ворагам--крызысам.

Спосабаў і дарогаў у гэтай барацьбе ёсьць вельмі шмат. Ня буду гаварыць аб тых, якія вымагаюць даволі шмат часу і вялікіх высілкаў, як напр. паднясеньне роўня матэр'яльнае культуры наагул, а земляробскае перадусім, калі ідзе гутарка аб нашых землях, а ўспомню аб адным толькі, які зьяўляецца даступны кожнаму і можа рэалізавацца на кожным кроку.

Як ведама, абег банкнотаў у Польшчы ў параўнаньні да яе патрэбаў ёсьць вельмі малы; аб гэтым сьведчыць факт сталога недахопу грошаў у гаспадарчым жыцьці. Якім-жа спосабам можна, калі ўжо не павялічыць, то прынамся не дапусьціць, каб ён паменшыўся.

Курс нашае валюты загвараντаваны пэўным запасам золата і замежных дэвізаў. Золата прынцыпова не зьяўляецца прадметам гандлю, затое чужую валюту можна купляць і прадаваць. Ей-жа аплачваюцца ўсе забавязаньні, якія маем перад заграніцаю. Забавязаньні гэтыя паўстаюць розна, пераважна аднак дзякуючы імпорту замежных тавараў. І вось, чым больш мы будзем купляць чужых тавараў, тым вялікшы будзе іх імпорт, а гэтым самым і паменшыцца ў нас запас замежных дэвізаў, якія, як ужо было сказана, зьяўляюцца побач з золатам падкладам нашае валюты. Банк Польскі ў гэтым выпадку змушаны рэагаваць паменшаньнем абегу банкнотаў, каб утрымаць прадбачаныя законам адносіны між запасам золата і чужой валюты а колькасьці банкнотаў.

Адсюль становіцца ясным, што нашым абавязкам ёсьць тое, каб па магчымасьці не дапусьціць да паменшаньня запасу замежнай валюты, наадварот, усімі сіламі старацца гэты запас павялічыць і такім чынам уліць больш крыві, так патрэбнай нашаму анэмічнаму гаспадарчаму організму.

А асягнуць мы можам гэта купляючы тавары і прадукты краёвага паходжаньня.

*М-а.*

# Гаспадарчы аддзел.

### Пчалярскія занняткі ў траўні?

У месяцы траўні пчаляр павінен дбаць аб тым, каб пчолы да часу галоўнага мядабраньня дайшлі да поўнай сілы. У сувязі з вышуспомненым пчаляра чакаюць у гэтым месяцы наступныя работы, аб якіх у меру магчымасьці будзе гаварыцца ў кожным нумары нашай газэты. 1) Пашырэньне гнёздаў. 2) Ройка і што рабіць, каб пчолы не раіліся. 3) Агранічэньне ў расплодзе пчолаў на час галоўнага мядабраньня. Праз увесь месяц травень змагаемся з матыліцай, душачы гусеніцы яе пры зазгляданьні ў вульлі і боронім ад мурашак, якія залазяць у вульлі, абмазваючы ножкі вульляў смалой.

У гэтым месяцы пчолы аддаюць усе свае сілы, каб выгадаваць, як мага болей рабочай пчалы дык трэба ім у гэтым памагчы. Каб у гнязьдзе было цёпла старанна акрываем яго і калі гняздо завялікае адпаведна паменьшываем лік рамак пакідаючы толькі столькі, колькі пчолы могуць абсесьці. Пчолаў, якія маюць недахоп корму, падкармліваем сытой з цукру — (1 кг. цукру на 1 літр вады). Падкармліваць пчолаў можна ў спэцыяльных кармушках або ў пчалінай вашчыне. Рамку з гатовай вашчынай кладзецца на стол і асьцярожна з чайніка ці так якога начыньня ўліваецца сыта ў вашчыну. Рамку з сытой ставім замест крайняй рамкі, якую выймаем з вульля. Гэткі спосаб падкормкі надта добры пры пашырэньні гнёздаў—тады крайняй рамкі не забіраем толькі адсовываем а рамку з сытой ставім на яе месца.

На кожным пчальніку здараюцца слабыя раі, раі бяз матак і з благімі маткамі. Такія раі трэба лучыць некалькі разам, бо слабыя раі карысьці нам не дадуць.

Злучаць пчолаў трэба так: у пчолаў, якія маюць благую матку забіраем яе на дзень перад злучэньнем, калі-ж яе няма проста дасыпаем пчолаў у вулей з добрай маткай. Пры злучэньні абедзьве сям'і трэба добра падкурыць дымам і пакрапіць сытой, ці мёдам, а добрую матку запіраем на два дні ў матачнік каб дасыпаныя пчолы прывыклі і асвоіліся з ёю. Вулей цёпла старанна акрываем, а калі пчолы маюць мала мёду падкормліваем сытой. Калі заглядаючы ў вулей сьцьвердзім што чарва знаходзіцца ў другой рамцы з краю, гняздо трэба павялічыць устаўляючы рамку або дзьве з вашчынай, а калі пчолы ўжо цягнуць плястры, можна ўстаўляць фабрычную вузу. Рамак з пачаткамі лепш не даваць, бо пчолы выцягнуць шмат трутнёвай вашчыны. Рамак з вашчынай або з вузой, пакуль на дварэ яшчэ не надта цёпла, нельга ставіць між рамкамі з чарвой, каб не астуджваць чарвы. Рамку ўстаўляем побач рамкі з чарвой адсовываючы апошнюю рамку. Калі-б дадаваную рамку ставілі ў канцы гнязда то матка доўга не магла-б зачарвіць прылягаючай да чарвы рамкі, бо звычайна пчолы складаюць у крайніх рамках пылок і пакуль пчолы пылку ня скормяць матка ня будзе мець месца дзе складаць яечкі. Калі ў гнязьдзе знаходзіцца больш як сем рамак з чарвой, а пагода стаіць добрая дадаваць можна па дзьве рамкі з вашчынай, ці фабрычнай вузой і ўстаўляць можна ўжо іх між чарвой. У пачатку чэрвеня добра-б было каб вульлі са спраўнымі сем'ямі былі запоўнены рамкамі. Крайнія рамкі можна ўстаўляць з пачаткамі, тады, калі пчолы і выцягнуць трутнёвую вашчыну не вялікая бяда, бо крайнюю рамку лёгка заўсёды дастаць. Трэба старацца каб у гнязьдзе ня было надта старой вашчыны, якую трэба паступова, калі яна ўжо з чарвой, перасоўваць на край гнязда, а пасьля як чарва выйдзе зьменьваць навейшай. Адпаведна да павялічэньня сям'і пчолаў трэба павялічваць лёткі. Пчолы ў траўні спаўняюць надта важную работу—гадуюць чарву, дык ім у гэтым ня трэба перашкаджаць заглядаючы і разбіраючы часта гнёзды. Пчолы пасьля кожнае візыты пчаляра маюць шмат работы пры парадкаваньні ў вульлі, а матка перапужаная перарывае на нейкі час чарвеньне.

*Ч.*

## Сяўба лёну.

Глебавыя і кліматычныя ўмовы нашага краю ёсьць досыць адпаведнымі для культуры лёну. Апрача таго лён, як прамысловая расьліна, дае параўнаўча вялікі валавы даход з адзінкі плошчы. Усё гэта нам гаворыць за тое, што пад лён дробныя гаспадары павінны адводзіць па магчымасьці найбольшыя плошчы. Гэта, відаць, добра разумее і наш селянін, але пашырыць культуру лёну ня можа з прычыны няпэўнасьці ўраджаю. Няпэўнасьць гэтая зьнікне тады, калі селянін будзе добра ведаць тыя вымогі, лёну адносна глебы, апрацоўкі яе, гнаеньня і г. д. Вось гэтае апошняе мы і пастараемся тут асьвятліць, пасколькі пазваляе нам разьмер артыкулу.

### Вымаганьне лёну адносна грунту.

Лён вымагае шмат вільгаці ў глебе, а дзеля таго на пяскох ён расьце кепска. Залішне вільготныя і тарфяністыя глебы для яго таксама не надаюцца. Ня трэба сеяць лёну і на вапністых грунтох, бо тады атрымліваецца валакно кепскае якасьці. Рэшта-ж глебаў, калі яны належна апрацаваны і адпаведна пагноены, цалком прыгодныя для культуры лёну; пры гэтым трэба зазначыць, што лён можна сеяць толькі на глебах зусім ачышчаных ад ліхазельля.

### Пасьля якіх расьлінаў найлепей сеяць лён?

Дзеля таго, што лён вымагае зусім чыстага адліхазельля поля,

**М. Дальны.**

## „Б а б к а"*).

(Даканчэньне).

Бабка ўвайшла ў хлеў і пачала аглядаць карову. Яна знае, што тут за штука. Напэўна хтось урок. Тут найпэўнейшая прычына. Хутка закраталіся бабы, кіравала Праксэля. Яна наліла ў міску вады й накідала ў яе гарачых вугольчыкаў. Вугольчыкі весела зашыпелі. Бабка панясла сваё лякарства ў хлеў. Уліла раз у мысу Лысцы. Лыска—як ня жывая. Ня хочац. Выліваецца вада назад, на гной. Паднялі галаву крыху вышэй. Ня п'е. Папырскала вадой карову, уздыхнула цяжка Лыска. Ізноў ляжыць, як калода.

Бабка яшчэ два разы хуценька кідала вугольчыкі ўваду. Давала піць Лысцы. Уліваала ў мысу з рукі ваду прыгаршняй. Але гэта нічога! Пырскала вадой і шаптала нешта, нахіліўшыся над каровай. Словаў яе нельга разабраць. Словы яе таёмныя. Ды іх ня трэба ведаць. Гэта ўжо сэкрэт бабкі. Праксэля, адрываючыся ад шопату, кажа Івану прынесьці шапку. Шапка гаспадарская павінна быць. Покі Івана няма, Ганна з бабкай стаяць у хляве моўчкі. Цяпер адбываецца самая важная таямнічая справа. Лыска мусіць ачуняць. Бабка прызывала ўсе добрыя сілы памагчы ёй у добрай справе.

Верхняй староной шапкі бабка таксама тры разы абціраe, абводзіць карову ад мысы пад жывот, па хрыбце. Ідуць у хату. Весялей робіцца. І таму, што вагонь асьвятляе хату. Цемната забілася ў куткі і застыла нярухомай чарнатой. І таму, што радасьць нейкая, надзея нейкая ў сэрца ўвайшла. Праксэля цяпер галоўная і паважная асоба. Вось у Мікіты кульгавага ў Засімавічах яна карову адратавала. А ўжо зусім канец ёй быў прыйшоў. І колькі яшчэ бабка зрабіла дабра людзям! Дый самі ведаюць.

У хаце пачуўся ход ног на панадворку і хлюпаньне па гразі.

— Вэтэрынар, пэўне, — адазваўся Іван.

Ён і быў. Здаровы. Высокі. Відаць, ад жывёлаў навучыўся расьці, дужэць. Пайшлі ў хлеў. Але ня было таямнічасьці тае. Ня было набожнасьці нейкае. Маўчалі. Бабка хітра паглядала на вэтэрынара. Стаяла збоку. Прыглядалася. Штось думала.

Распытаўся, калі ацялілася. Ці даілі перад цяленьнем. Вось і бяда, што даілі. Малака—шыш. А карова тлустая, вось і маеце!

— Дык ці-ж я ведала? — апраўдывалася Ганна.

— Ну, нічога. Зараз спрабуем. Як ня позна, выратуем. Халодная ўжо. Вушы халодныя. Сьпіна амярцьвела. Пабіў па хрыбце помпкай. Бачыце — ня чуе. Заўважыў, што вады наліта: Што, вы паілі яе? — спытаўся, востра ўглядаючыся ў твары.

Высунулася бабка й выясьніла, што яна тут ужо ратавала карову. Вады ў мысу ліла.

І дурная-ж ты, бабка! — раззлаваўся. Стаў і несьпяшаючы пачаў даймаць бабку.

— Ты-ж падумай, цётка, дурная твая галава! Ты-ж магла карову згубіць. Каб вада ды папала ў грудзі ёй — дык і канец быўбы: задыхнулася-б.

— Ня слухайце вы гэтых бабак,—зьвярнуўся да Івана. Ганеце іх вон! Знаю я іх! колькі яны скаціны ды людзей на той сьвет загналі, каб іх немач туды загнала!

Вэтэрынар моцна вылаяўся і прыняўся за дзела. Бабка тымчасам, засароміўшыся, стаяла моўчкі і хітра пазірала вачыма. Прынясьлі шматкі палатняныя, намачылі крыху. Напампавалі кароўку. Завязалі, каб дух ня выходзіў. Скора і рашуча, паднялі галаву.

— Як устане праз пяць гадзін—жыва будзе. А можа й раней устаць. А як ня ўстане — канец. Нічога ня зробіце.

Пасядзелі ў хаце. Пакурылі. Пагаварылі. Пайшлі ізноў у хлеў. Паднялі кароўку. Ногі дрыжаць. Слабая яшчэ. Ізноў лягла.

— Цяпер ужо будзе жыць. Во—і вушы цяплейшыя.

Пагледзелі ўсе вушы, правялі праз далоні. Сапраўды пацяплелі. Узяў грошы. Няшмат. Бедныя. Пайшоў у цёмную вуліцу.

У хаце ціха зрабілася. Маўчалі. Як-бы нешта хтось адняў.

— Ты-ж, Праксэлька, пасядзі, рыбачка, ужо заначуеш у нас, — нарушыла маўчаньне Ганна. — дзякуй, што памагла.

— Ды што-ж я тут памагла вам? Няхай ужо, застануся.

Памаўчала і далей.

— А вы думаеце, гэта ён памог? Гэты вэцянар? Дык-жа, каб я так шчасьлівенька была, як ня ён...

— А няўжо ён там знае, што трэба, — згаджалася Ганна.

— Урок хтось, няйнакш. Увайшла хвароба ў скаціну. Трэба стуль яе выгнаць, а што гэтыя вучаныя людзі, што яны там знаюць? Усё яны на кніжках вучаныя; хайжа-б выдумалі, каб чалавек не паміраў. Нябойсь, ня выдумаюць.

Іван на лаўцы праз дрэму слухаў бабку і думаў, разважаў. Ліха яго ведае. Якаясь сіла таёмная ёсьць. Сон путаў яго думкі, і хутка ён заснуў моцным, здаровым сном, зьлёгка пахрапваючы.

Бабы паўголасам гаварылі. Яны былі моцна пераканаены, што іх сіла падняла Лыску.

А пад раніцу кароўка зусім была здаровая. Праз паўтара тыдні і на пашу пусьцілі.

1933.

*) Гл. „Р. К." № 7.

то яго нявarта сеяць пасьля збажовых. З гэтае-ж прычыны зусім на месцы ўмяшчаць яго пасьля асыпных (бульба, буракі). Вельмі добрым папярэднікам для лёну ёсьць канюшына і іншыя матыльковыя расьліны, якія ўдаліся добра і не далі магчымасьці ўкараніцца ліхазельлю. Таксама добра ўдаецца лён на новараспрацованых палёх, г. зв. адлогах. Беспасрэдна па сабе лён расьце кепска і яго паўторна сеяць на тым самым кавалку можна не раней як праз 6-8 гадоў.

**Апрацоўка глебы і ўгнаеньне.** Поле пад лён павінна быць вельмі старанна апрацованае. Глыбокую ворку трэба правясьці яшчэ з восені. А вясною ўспульхняецца поле пад пасеў толькі бараною і культыватарамі, або пружыноўкамі. Вясеньняя праца павінна мець на мэце таксама дакладнае нішчэньне ліхазельля. Дзеля гэтага поле загадзя барануецца, а калі глеба сухая, то пасьля прывальваецца валкам; пасьля гэтага насеньне ліхазельля прарасьце і па нейкім часе нішчыцца баранаваньнем або нават і мелкай воркай.

Гнаіць поле безпасрэдна пад лён хлеўным гноем ніколі нявартa, бо з гноем у глебу ўносіцца шмат насеньня ліхазельля. Дзеля таго, каб у глебе ўсё-ж такі было даволі пажыўных складнікоў, трэба належна пагнаіць папярэднюю расьліну. На лён вялікі ўплыў робяць штучныя гнаі, а з іх перш за ўсё паташовыя, як: паташовая соль, каініт і попел. З гэтых гнаёў толькі каініт высяваецца ў восень, а рэшта — вясною, перад пасевам.

**Сяўба лёну.** Сеяць лён трэба загадзя, каб ён мог выкарыстаць зімовую вільгаць, аднак звычайна гэты пасеў адбываецца ў траўні месяцы, калі мінае небясьпека вясеньніх прымаразкаў. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што сярэднім пасевам лёну часта шкодзяць земляныя блохі. Блохі нападаюць на лён толькі ў першай стадыі яго росту, калі ён ня вырас вышэй 2 цэнтымэтраў, а дзеля таго, што земляныя блохі зьяўляюцца ў першыя гарачыя вясеньнія дні, то яны для раняга і позьняга пасеву лёну зусім ня страшныя.

Што-ж тычыцца гушчыні пасеву, то яго трэба ўзалежняць ад таго, на што мы кладзем перавагу,—на семя ці валакно. Лепшае валакно дае густы лён, але затое семя ў такім разе горшае і наадварот: рэдкі пасеў дае лепшае семя і горшае валакно. Каб мець досыць добрае валакно, а пры гэтым і семя, трэба высяваць насеньня лёну каля 150 кілёгр. на гэктар (дзесяціну). Сеяць лён трэба па магчымасьці роўнамерна. Пасьля пасеву поле трэба забаранаваць лёгкаю (лепей дзеравянаю) бараною, каб насеньне не запала глыбака ў зямлю, бо ў праціўным разе шмат яго ня выб'ецца на верх, а самыя ўсходы будуць неаднолькавыя. Пасьля баранаваньня часта поле валкаваць, асабліва на глебах лёгкіх.

Сеяць лён можна толькі добрым і чыстым насеньнем. Асабліва трэба сьцерагчыся, каб у насеньні ня было зернятаў павілікі. Добрае насеньне ёсьць бліскучага карычнева-жоўтага колеру. У вадзе такое насеньне ня плавае, а тоне. Апрача таго, калі зерня добрага насеньня кінуць у жар, дык яно трашчыц і дае полымя.

*З. К.*

---

## Гнаёўка.

Падліваньне расьлін гнаёўкай мае тую перавагу над звычайным гноем, што дзеець шмат хутчэй. Гнаёўкай можна падсілкаваць расьліну якраз у той час, калі яна найсільней разьвіваецца. Асабліва выразна гнаёйка дзеець на гуркі. Калі часамі і здараецца няўдача, дык гэта выключна дзеля таго, што няўмела прыгатавана гнаёўка. Падаем зусім просты спосаб прыгатаваньня гнаёўкі. Трэба ўзяць старую, на нівошта ўжо ня здатную бочку звычайнай сярэдняй вялічыні, як напрыклад ад селядцоў. Бочку добра было-б звонку абмазаць цамэнтам (1 часьць цамэнту і 2 часьці жоўтага пяску, перамяшаць насуха і разбавіць вадою да гушчыні кашы). Калі замазка крыху зацьвярдзее (праз 3—4 гадзіны) абкруціць бочку рагожаю, ці якім небудзь старым мяшком, ці дзяругаю і ў працягу 2—3 дзён паліваць вадою, каб рагожа была мокраю.

Калі трудна дастаць цамэнту, дык проста можна бочку закапаць у зямлю, але ў такім месцы, дзе мала ходзяць людзі, а асабліва дзеці. У бочку да палавіны пакласьці чыстага без саломы гною. Гной можа быць каровячы, а яшчэ лепш чалавечы. Да гэтага дадаць з поўвядра попелу, стольki-ж сажы, уліць 3—4 вядры памыяў, а рэшту даліць вадою, каб была поўная бочка.

Калі-б попелу, сажы і памыяў ня было, дык можна абыйсьціся і бяз гэтага, а проста бочку даліць вадою. Накрыць бочку вечкам, зьбітым з дошак, але ня шчыльна, каб праходзіла паветра. У працягу 10 дзён трэба што дзень добра усё ў бочцы вымешваць. Пасьля 3—4 дзён даць спакойна адстаяцца і такім чынам праз два тыдні ад дня залажэньня гнаёўка гатова.

Дзеля падліўкі расьлін трэба ўзяць (не мяшаючы) зверху з бочкі жыжкі ды разьвесьці яе напалам чыстаю вадою. Самаю гнаёўкаю бяз вады паліваць не варта, дзеля таго, што могуць захварэць карані расьліны. Наагул лепш паліць другі раз чымсь адразу даць шмат гнаёўкі, дзеля таго, што гнаёўка, калі яе шмат даць пойдзе ніжэй каранёў і застанецца ня выкарастанаю.

Паліваць гнаёўкаю можна абсалютна ўсе расьліны ў гародзе, ў садзе, а таксама і кветкі. Паліваць ня больш, як раз на тыдзень, а найменьш 2—3 разы на вясну і лета. Перад паліўкаю гнаёкай каля расьлінак зрабіць невялічкія ямкі, каб гнаёўка не разьлівалася. У часе паліваньня расьлін гнаёўкай, зямля мусіць быць крышачку вогкай. Калі-ж зямля вельмі перасохла, дык трэба спачатку расьліны паліць вадою, а пасьля гнаёўкаю. Гэта важна таму, што карані моцна патрабуючы вогкасьці, пачынаюць зараз-жа ўсмоктваць гнаёўку і могуць ад гэтага захварэць. Найлепшы час дзеля паліўкі гнаёўкай - гэта ўвечары і пасьля дажджу.

---

* * *

Адпоўз...
Пераломаны карк.
Боль ў вачох і сьмяротная жуць.
Уцячы?..
Але дзе?
І як
здохнуць трэба загнанаму ў кут.
Камень
ударыў бяз жалю.
Асочаны
Ласкі не знае..
Ізноў...
Конвульсыяў хваля
. . . . . . . . . .
Хлапцы ў сьмех.
Кот пацешна здыхае.

Берасьць, 1934. *А. Б.*

---

# З газэт.

«Беларусь Працы» № 4 за 28 красавіка с. г. ў адным з артыкулаў, скірованых проці літоўскага імпэрыялізму, прыводзіць цікавыя цытаты з выступленьняў шовіністычна настроеных літоўскіх вучоных, якія хварэюць на вельмі вялікую прагатавітасьць да тых беларускіх абшараў, дзе часам нават і на насеньне трудна было-б знайсьці што-небудзь літоўскае.

«Заложаны літоўскімі палітыкамі,—піша „Б. Працы",— Саюз Вызваленьня Вільні (запраўды-ж — здабыцьця беларускіх Віленшчыны і Горадзеншчыны) сяньня ахапіў сваімі гурткамі і дзейнасьцяй усю Літву. Належаць да яго інтэлігэнцыя і масы працоўныя, старыя і моладзь. Кожны літвін сяньня сьвята верыць, што існуе „акупаваная" Літва, на якой пражывае 90% літвіноў, землі каторай зьяўляюцца гістарычна-літоўскімі і таму край гэты павінен належаць да Літвы, як яе інтэгральная частка... Літоўскі сьвет навуковы зусім плянова даказвае праўдзівасьць гістарычнай і фактычнай няпраўды, каб пасьля гэта прапаведваць з прафэсарскіх катэдраў, узгадоўваючы маладое пакаленьне ў няпраўдзе... Ведамы літоўскі геаграф, прафэсар Пакштас у ковенскім унівэрсытэце гаворыць дасloўна наступнае („Rytas" № 70 з дн. 26. III. 34 г.): ... «Віленшчына лічыць мільён 700 тысяч насельніцтва.., цэлая Віленшчына пад поглядам складу ёсьць літоўскай. Ад Нёману, Ліды, Дубічу звычаі будаўніцтва, усе вырабы насельніцтва зьяўляюцца па паходжаньню літоўскімі (!). Адлітоўшчаныя беларусы (?!) ня маюць (!) сваіх народных песьняў... Пад поглядам этнографічным Віленшчына... ёсьць у 75—90% літоўскай. У Віленшчыне гаворачых палітоўску ёсьць крыху (!!!) менш, чымся на абшары Клайпэды»... Літоўскі прафэсар Ст. Салкаўскіс у польскіх „Wiadomościach Literackich" з дн. 25.III.34 г. піша гэткія рэчы: што ўвесь літоўскі народ з XII ст. стварыў незалежную дзяржаву ад Балтыку да Чорнага мора, дзяржаву паганскую, што ў XVI ст. літоўскі народ стварыў кодэкс правоў»...

Ня ведаем, ці вучыўся літоўскі прафэсар у Ілавайскага, ясна аднак, што ў фальшаваньні гісторыі ён перавышыў гэтага колішняга кіта б. расейскага імпэрыялізму. Літоўскі народ (хіба-ж не цяперашні!) займаў быццам ня толькі жмудзкія ды беларускія землі,—як хоча даказаць літоўскі гісторык, — а нават Валынь і Падольле, дзе, як ведама, шчыльнаю масай жывуць украінцы.

А чаму гэта літоўскі народ стварыў кодэкс законаў (гутарка, пэўна-ж, аб Старым Літоўскім Статуце), апублікаваўшы яго не пасвойму, г. зн. палітоўску, а пабеларуску, старою нашаю моваю— тут літоўскі вучоны XX веку спрытна маўчыць.

Пачакаем, мо' і на гэтае пытаньне сфабрыкуе з часам свой „мудры" адказ хітрая літоўская навука.

---

# Наш рэпортаж.

Прыкры і цяжкі абавязак рэпортэра. Усюды трэба ўлезьці, усяго даведацца. Рэдактар у нас востры чалавек. Яму падавай навіны, апошнія весткі, дый сэнсацыі. Ён і не цікавіцца нават, што ў беднага рэпортэра ад бегатні ногі баляць, а алавік з рук выпадае. Але сяньня хіба задаволены. Сяньня рэпортэр, як індык напушаны ходзіць. Дый і запраўды ня жарт. Падумайце, бедны дэмократычны рэпортэр усунуў свой нос аж ў стаўку Яго Манаршае Міласьці, якая месьціцца таксама ня ў вельмі даступным месцы. Пытаецеся дзе? У бліндажы, даражэнькія. Думаю, ведаеце, што такое „бліндаж", а калі не — загляньце ў энцыклёпэдыю. Тлумачыць не магу. Рэдактар скажа, што „пастрочныя" злосна раблю. Ён у нас чалавек востры. Дык вось вам пару абразкоў і ўрыўкаў размовы. Цэласьць тварыце самі.

„Вось табе мам-мамачка і Юр'еў дзень"... І трэба-ж было дастасавацца мам-мамачка, што цяпер скажэце?"...

Так зачаў свой даклад ад'ютант Яго Манаршае Міласьці.

І запраўды сытуацыя больш чым нявыразная. Пералічыліся.

Здавалася вось-вось і ўжо трымаюць яго ў руках, але дзе там не падвялі Яго, Яго-ж гадунцы. І маеш Табе... І яшчэ гэты Юр'еў дзень. Дастасавалі прыказку да запраўднасьці цюцінька ў цюцінькy.

Як-ніяк, а страшэнна няпрыемна дастаць па лапах, па арыстакратычна-шляхоцкіх лапах і то тады, калі гэныя лапы ўжо нешта схапілі і то ў Юр'еў дзень.

Шамбэлян двору пан Трэпандо-Нэпка хацеў нешта гаварыць і ўжо ўзмахнуў рукой, але Яго Манаршая Міласьць перарвала яму, злосна ўхмыляючыся: „Што-ж можа парадзіце нам за дзяўчаткамі бегаць. Маўчыце лепш".. прасычэў праз зубы.

Сталася ўсё гэта так неўспадзёўкі і хто-бы падумаць мог. Бунт супроць пануючага з ласкі божае... Чысты скандал. Аднак-жа моладзь — гэта рэвалюцыйны элемэнт. Студэнты ўсюды рэволюцыю робяць. Ня маюць пашаны да аўтарытэтаў з ласкі божае.

Манарх злосьціўся. „Парыж быў варт імшы!"

А тут і багаслаўленьне Адамава не памагло і помач ягонага роду і імшу здаецца выслухаў і аднак-жа Парыжу не дастаў.

Людзі сьмяяцца будуць.

Доўга думала ягоная лысая галава, седзючы на троне сярод памятак мінулага.

Прыдворныя бегалі з кута ў кут.

Нарэшце манарх страпянуўся і прагаварыў. Першую частку ягонага маніфэсту з недахопу мейсца не падамо. Яна ўсім ведамая: „Мы з ласкі божае і т. д."

Мала нас гэта цікавіць. Людзі, калі і цікавяцца сяньня, дык толькі лёсам здэтронізаваных Альфонсаў. Дык што-ж Яго Міласьць рабіць будзе?.. А вось слухайце. Падам у скарочаньні.

Яго Міласьць мае замер замкнуцца з найбліжэйшымі прыдворнымі ў кляштoрных мурох і маючы навакол сябе навуковае таварыства папаўняць сваю веду.

Сам ён мае добра праступываць „Езуіцкую палітыку", пан Вінцушкевіч займецца квэстыяй „прасьледаваньня каталікоў у Мэксыку ў сувязі з аліментарнай этыкай", пан Трэпанда-Непка мае замер дакончыць распачатае кніжкі для простага люду, п. н. „Як плясьці кашалі", а пан Мам-мамачка аддасца студыям фольклёру ў прадмеце замены дзе якіх прыказак, як напр.: „вось табе мам-мамачка і Юр'еў дзень"...

*Рэпортэр.*

---

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## У Вільні.

*У Корпарацыі „Scorinia".* 23-га красавіка г. г. быў склiканы надзвычайны Конвэнт К! „Scorinia" ў справе № 3. „Новае Варты", які разгледзіўшы ўсебакова парушаную справу прызнаў: 1) што ня згодная з праўдай зацемка, зьмешчаная ў № 3. «Новае Варты» проціў былога філістра К! гр. Р. Астроўскага была напісана пастароннімі людзьмі з старэйшага грамадзянства, 2) што выдаўцы гэтага нумару студ. Часлаў Ханяўка і Тамаш Грышкевіч сьвядома далі выкарыстаць орган К! для зьвядзеньня асабістых парахункаў людзям нічога супольнага не маючым з Корпарацыяй.

На падставе гэтага ўспомненых сяброў К! камільтонаў Ч. Ханяўку і Т. Грышкевіча Конвэнт пастанoвіў выкінуць з К! без права павароту.

*Канцэрт-лекцыя.* 5-га траўня г. г ў 19 гадзін Таварыства Беларускай Асьветы ладзіць у залі Віленскай Беларускай гімназіі *Канцэрт-лекцыю* прафэсара *К. М. Гал-*

*коўскага* на тэму: „Вялікі пясьняр Польшчы — Станіслаў Манюшка“. Падчас лекцыі сьветлавыя і музыкальныя ілюстрацыі з удзелам: гр. З. Плееўскай (сопран), гр. І. Рэўкоўскага (барытон), гр В. Цумфт (фортэп'ян), гр. К. Тэльмашэўскага (віолёнчэля).

*Звальненьне вучыцеля беларускай гімназіі ў Вільні гр. Вінцэнтага Грышкевіча.* 25 красавіка 1934 г. Куратырыя Віленскага Школьнага Вокругу звольніла з гімназіі вуч. В. Грышкевіча за не этычнае паступаньне ў адносінах да сваіх калегаў.

Да канца году лекцыі па Грышкевічу Дырэкцыя падзяліла паміж іншымі вучыцелямі.

## На правінцыі.

*Польскае прадстаўленьне.* (в. Клачкова, Беніцкае вол.). Дня 8 красавіка г. г. ў нашай вёсцы адбылося польскае прадстаўленьне, ладжанае кіраўнічкай тут. школы і іншымі панамі. Гэнэза гэтага спэктакля была наступная: беларуская моладзь разам з культурна-прасьветнымі працаўнікамі нашае вёскі зьвярнуліся, ня маючы магчымасьці атрымаць самім дазвол на спэктакль, да кіраўнікоў польскага тэатральнага аддзелу з просьбай дапамагчы ім у гэтай справе. Апошнія ахвотна згадзіліся, але дасталі дазвол толькі на прадстаўленьне ў польскай мове. Такім чынам выкарысталі яны беларускую моладзь, якая хацела адыграць і беларускую п'есу, што выклікала зразумелае незадаваленьне. Ясна, што такое польска-беларускае супрацоўніцтва зьяўляецца для нас немагчымым і мы, беларусы, павінны зарганізавацца і стаць стойка за сваё, а прышласьць пакажа, што дамо самі сабе раду. Мы ня проч супрацоўнічаць, але сумленна, а не „крутадухам“. *Л—к.*

# Палітычная хроніка.

× Паводле вестак з **Коўна**, **Літва** вельмі ўстрывожана дзейнасьцю нямецкіх нацыяналь-соцыялістаў ў Клайпэдзе. Літоўскае Міністэрства заграничных справаў пераслала падпісаўшым клайпэдзкі статут дзяржавам фатаграфіі дакумэнтаў, ілюструючых гэтую дзейнасьць гітлероўцаў, як варожую літоўскім дзяржаўным інтарэсам.

× З **Вены** паведамляюць аб устанаўленьні парлямэнтам на паседжаньні 30.IV. г. г. новае констытуцыі для **Аўстрыі**. Новая констытуцыя мае ў сабе 182 артыкулы і 13 разьдзелаў. Слова „рэспубліка“ выкрэсьлена з гэтае констытуцыі. Дзяржава будзе арганізавана, як зложаная з саюзаў розных станаў. Органамі дзяржавы маюць быць: 1) Дзяржаўная Рада з 40 — 50 сябрамі, назначанымі прэзыдэнтам дзяржавы на 10 гадоў, 2) Культурная Рада (30 — 40 чалав.), выбіраных з выдатных прадстаўнікоў асьветы, рэлігіі, мастацтва і навукі, 3) Гаспадарчая Рада 70 — 80 сябр., выбіранымі з гаспадарчых сфэраў і 4) Рада Саюзных Краін па 2 прадстаўнікі ад кожнае краіны і ад м. Вены. Пастанаўляючым органам мае быць Сойм, зложаны з прадстаўнікоў вышэй пералічаных радаў.

× ПАТ перадае з **Жэнэвы** аб выданьні генэральным сэкрэтарыятам **Лігі Народаў** камунікату з якога відаць, што ў бягучым траўні месяцы праца Лігі будзе вельмі рухлівою. Апрача 79 сэсіі Рады Лігі, якая пачнецца 14 гэтага м-ца, прадбачацца яшчэ сэсіі камітэтаў: фінансавага, гігіены, барацьбы з ужываньнем опіуму і іншых наркотыкаў.

× Пры новых выбарах у Вялікі **Турэцкі** Сойм у 1935 г. будуць мець права голасу таксама і жанчыны.

× 2-га г. м. быў праездам у **Варшаве** старшыня **фінляндскае** рады міністраў ТоівоКівімаікі, які злажыў прыватную візыту польскаму прэм'еру Енджэевічу.

× У **Саветах** бальшавікі натыкаюцца на шырокі адпор сялянства пры праводжаньні ўладамі пасеўнае кампаніі ў ударным парадку. Наглядаўшыя над сялянамі камсамольцы ў шмат якіх выпадках былі пабіты. У адказ на гэта бальшавікі загадалі караць сялян за непаслухмянасьць, як контрэвалюцыянэраў. Таксама ўлады моцна трывожацца спаданьнем дзеннае прадукцыі ў Данецкім басэйне. У лютым, напрыклад, дабывалася ў дзень 167.700 тоннаў вугля, а ў сакавіку толькі 115,000 тоннаў у дзень; паніжэньне прадукцыі ў красавіку адбывалася далей.

× Як падае „Курьер Віл.“ сёлёта ўва ўсёй **Польшчы** сьвята 1-га траўня прайшло спакойна пры малым ліку маніфэстантаў.

× У **Латвіі** дзень 1-га траўня зьяўляецца нацыянальным сьвятам, бо ў гэты дзень было адчынена першае паседжаньне ўстаноўчага сойму. У сувязі з чаканымі дэманстрацыямі, паліцыя зрабіла шмат арыштаў сярод процідзяржаўных элемэнтаў. Мітынг, склікаены соцыяль-дэмакратамі, прайшоў спакойна.

× **У Нямеччыне** на палёх Тэмпэльгофу каля Бэрліна г. зв. нацыянальнае сьвята працы сабрала каля паўтара мільёна асобаў. Да сабраных прамаўляў канцлер Гітлер і міністар Гэббэльс. Па прычыне вельмі цёплае пагоды было больш як 2000 абамлеўшых.

× У **Гішпаніі** з прычыны работніцкага сьвята адбыўся агульны страйк нябывалых разьмераў, як у Мадрыдзе, так і Барсэлёне. Газэты 1-га траўня ня выйшлі, апрача мадрыдзкага офіцыёзу.

# Бібліяграфія.

*„Маршалак Язэп Пілсудскі ў Вільні і на Віленшчыне“*. Вільня 1934. Nakładem „Dziennika Urzędowego” Kuratorjum Okręgu Szkolnego Wileńskiego. Кніжка выдана для Біблітэкі Дыдактычна-Узгадаваўчае Парадні пры Куратырыі Віленскага Школьнага Вокругу, як „дапамога“ вучыцелю, які рэалізуе праграму пачаткавае школы на Віленшчыне і Наваградчыне”. Гэта беларускі пераклад зборніку д-ра Уладыслава Арцымовіча, зроблены з „ініцыятывы Гуртка Перадавое Стражы вучаніцамі і вучнямі Беларускае Філіі Дзяржаўнае Гімназіі імя Ю. Славацкага ў Вільні пад агульным даглядам вучыцелькі беларускае мовы Алёны Лекант“. Кніжка пачынаецца партрэтам Маршалка Пілсудскага ў мундзіры бяз ніякіх вайсковых ад'знакаў; разам з гэтым партрэтам у кніжцы зьмяшчаецца 18 ілюстрацыяў: партрэты бацькоў Маршалка Пілсудскага, Маршалак з братам Браніславам, Зулаў, дзе нарадзіўся Маршалак, віленскія дамы, у якіх ён пражываў, ключы м. Вільні ды іншыя цікавыя ілюстрацыі. Тры польскія вершы—„Modrzewiowy dwór“ Меч. Опалэка, „У Х-тыя ўгодкі вызваленьня Вільні А. Опмана“ і „Piaśń o Józefie Piłsudskim“ Эдв. Слоньскага пакінены неперакладзенымі на белар. мову, што зусім зразумела, бо трудна было-б вымагаць ад вучняў добрага перакладу высока-мастацкіх вершаў польскіх патрыётаў. Але і проза перакладу, зробленага, як відаць, строга трымаючыся тэксту арыгіналу, магла-б, як „дапамога вучыцелю“ быць стражэй прарэдагавана ды ўстылізавана пабеларуску. Можна зусім дакладна перадаць пабеларуску сэнс польскага тэксту і зусім неабавязкава пакідаць польскія звароты ў беларускім тэксьце. А звароты гэткія часам трапляюцца. Кніжка мае 96 бачын вялікага фармату і ясна, што дробныя недахопы маглі ў ёй здарыцца. Здараюцца і дробныя карэктурныя памылкі. Але гэта ўжо наша вечная хвароба. Дый адкуль могуць нарасьці, ці вырабіцца спрытныя карэктары, калі ня шырыцца, а замірае нашае выдавецтва.

Трэба аднак-жа прызнаць, што пры перакладаньні мусілі трапляцца месцы даволі трудныя, і нашыя маладыя перакладчыкі паклалі агулам шмат працы і старанлівасьці, рыхтуючы апісваную кніжку да выхаду ў сьвет. *М.*

# Паштовая скрынка.

### Адказ ТЭБЭШоўцам.

У апошні час канцэлярыя ТБА атрымала шмат пісем ад гурткоў ТБШ і паасобных сяброў з Косаўшчыны, Наваградчыны, Беласточчыны і Віленшчыны з просьбамі: 1) ці то памагчы ўзнавіць дзеяльнасьць „завешанага“ гуртка ТБШ, 2) ці адвесіць „завешаную“ бібліятэку-чытальню, 3) ці памагчы атрымаць дазвол ад старасты на пастаноўку спэктаклю і г. д

Не маючы магчымасьці адказваць на гэтыя пісьмы кожнаму пасобку, даем на гэтым мейсцы адказ усім адразу, бо-ж усе гэтыя справы фактычна зьвязаны паміж сабою і маюць адну супольную прычыну.

Справа ў тым, што на ўсе гэтыя пытаньні адміністрацыя яшчэ дагэтуль глядзіць вачамі недаўнага мінулага, а мінулае, як вам, грама дзяне ведама, для ТБШ прадстаўляецца вельмі некарысным.

Ні для каго ўжо ня сакрэт, што пару гадоў таму назад шмат гэтых, так цэнных для нас, культурных пляцовак было справакавана камуністамі, якія пад прыкрыўкаю ТБШ праводзілі сваю камуністычную работу. Ці-ж не памятаеце вы таго, калі амаль у кожнай камуністычнай адозве розныя „райкомы“ і іншыя „комы“ не выключаючы самога ЦККПЗБ называлі ТБШ сваею экспозытурай. Мы, грамадзяне, вельмі добра ведаем, што так дрэнна ў сапраўднасьці ня было, што платным агентам КПЗБ хадзіла, відаць, толькі аб тое, каб адчытацца перад сваім начальствам ды паказаць яму, што яны маюць такі вялікі ўплыў на беларускія масы, але аднак, кажучы праўду, у шмат якіх мясцох ім сапраўпы удалося справакаваць паасобныя гурткі на чыста камуністычную работу.

Вось дзе, фактычна, ляжыць уся прычына, чаму ў сучасны мамэнт так трудна згаварыцца з адміністрацыяй у парушаных вамі пытаньнях. Калі-ж дадаць яшчэ й тое, што за апошні час, як аб гэтым так шырака пісала „Беларуская Газэта“ ўнутры самога ТБШ наступіў разлом, калі адны другіх абвінавачвалі то ў камунізьме, то ў здрадніцтва, дык канчальна зразумелым будзе чаму справа гэтая зьяўляецца такою цяжкаю.

Які ж выхад з такога пала жэньня, спытаеце нас?

А вось які:

Мэты кожнай культурна-прасьветнай арганізацыі аднолькавыя, дык, калі сапраўды вам ходзіць аб гэта, калі вы ўжо сапраўды пераканаліся ў той правакацыі, якую прарабілі вашыя „прыяцелі“ так справа, як зьлева, і ў сучасны мамэнт вам ходзіць аб чэсную і шчырую *выключна* культурна прасьветную працу, дык найлепш пачынайце працу пад тым сьцягам, які такое мінуўшчыны ня мае—гэта знача пад сьцягам нашае арганізацыі ТБА.

Ясна, што й тут ня ўсё так лёгка пойдзе, як гэта шмат каму прадстаўляецца: у паасобных выпадках і мы спатыкаемся з перашкодамі з боку анміністрацыі, але тут змагацца шмат лягчэй і мы маем ужо некалькі прыкладаў, калі няслушныя прычэпкі ніжшай адміністрацыі былі вышэйшаю ўладаю спынены і праца пайшла.

Прысылайце дэклярацыі аб жаданьні залажыць ці то гурток; ці то бібліятэку, надаючы, зразумела, на кіраўнічыя становішчы людзей не скампрамітаваных, а мы прышлем свайго інструктара на месца і працу наладзім.

Выключаем з гэтага пакуль што Косаўшчыну. Пружаншчыну і наагул Палескае ваяводзтва, бо там гэтая справа найбольш цяжкая але ў канцы чэрвеня г. г: нашыя прадстаўнікі будуць у Палескага ваяводы і канчальна гэтую справу вырашаць. Пакуль што прысылайце дэклярацыі і заявы, апісываючы дакладна тыя перашкоды, якія спатыкаеце з боку адміністрацыі і падаючы адпаведных кандыдатаў.

**Увага:** Калі-ж вы, грамадзяне, хочаце абавязкава ўтрымаць гурткі ТБШ, дык тады зварочвайцеся да свае Галоўнае Управы.

*Урад ТБА.*

P. S, На іншыя пісьмы з недахопу месца адказ дамо ў наступным нумары.

# Вясёлы куток.

### Бяз сэнсу.

— Ці чытаў „Беларусь Працы“?
— Чытаў.
— Ну і як табе спадабалася?
— А навет, нішто...
— Гм... спадабалася?! А што-ж ты ў ёй добрага знайшоў?
— Папера добрая і друк нічога сабе, толькі вось адзін недахоп ёсьць: ніякага сэнсу ў гэтай газэціне няма, — чым больш чытаеш, тым больш дурнееш.

### Яшчэ адзін Саюз.

— Ці праўда, што ў Вільні меўся быць заложаны „Саюз Абсольвэнтаў“ (Саюз людзей з вышэйшай асьветай).
— Меўся, але нічога з гэтага ня вышла.
— А якія мэты гэтага Саюзу?
— Каб беларускі мужык добра ведаў перад кім мае здалёку шапку зьнімаць... *К. М.*

### Беларускія прыпеўкі.

*(У выкананьні артыстаў Прагарэлага Тэатру).*

*„Манарх“*:

Беларусь ты, Беларусь,
Што ты нарабіла?
Свайго роднага манарха
Жабраваць пусьціла.
Хацеў правіць-кіраваць
Я на страх Эўропе,
А „падданыя мае“
Далі мне па... носе...
Няма Улады, — няма грошаў,
Хоць кладзіся памірай!
Палажыў зубы на полку
Праз цябе я, „Родный Край“!..

*»Шамбэлян«*:

Гэй, ня грайце музыкі!
З мяне толк невялікі:
Я ўжо болей не „дзеяч“,
А манархавы «таўкач».
Я на службе у „манарха»
Пастарэў і пасівеў,
Усё-ж глузду не набраўся,
Навет страціў, які меў...
Гэтак з трэскам праваліўся,
Сорамна успамінаць,—
Далі мешалкай па нечым,
Аж на ногі цяжка ўстаць...

*„Мамачка“*

„Пропадай моя телега,
Все четыре колеса“, —
Акалпачылі пад старасьць,
Проста шуткі чудеса!
„Всё Антонушке я верил,
За ним шел, как верный пёс“,
Эх, ты доля, мая доля,
Распракляты, мой ты лёс!..
Дзе падзецца мне пад старасьць,
Дзе галовушку схіліць!—
Можа ізноў у Радаслава
Ласкі — міласьці прасіць!?

*„Пацук“*:

Ня спіцца мне, не ляжыцца
І сон мяне не бярэ,
На сэрцы неяк мляўка,
Быццам чорт яго дзярэ!
На свае крывыя ножкі,
Ці я ўстану, як даўней,
Ці паможа мне ўжо болей
Які небудзь дуралей?..

*Язэп Дудар.*

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22